Народная Воля
17 ЛІПЕНЯ 1998 г.

Пратэст

# Беларускую мову прэч з навукі?

Змест вышэйпрыведзенага дакумента, які я каменцірую па просьбе рэдакцыі газеты "Народная воля", не з'явіўся для мяне нейкім адкрыццём. Яшчэ раней, дзесьці з год таму назад, даведаўся ад саміх жа аспірантаў, што цяпер яны з вялікай ласкі ўрада краіны (маецца на ўвазе зацверджанае пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 мая 1997 г. Палажэнне аб прысуджэнні вучоных ступеняў і прысваенні вучоных званняў) вызвалены ад абавязковай здачы заліку па беларускай мове. А ўведзены ж ён быў на самым заранку нашага сучаснага нацыянальнага адраджэння ў адпаведнасці з прынятай прэзідыумам Акадэміі навук БССР 5 снежня 1990 г. пастановай "Аб мерапрыемствах Акадэміі навук БССР па рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР".

ПРЕЗИДИУМ
НАЦИОНАЛЬНОЙ АКАДЕМИИ НАУК БЕЛАРУСИ

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

28 мая 1998 г.

О внесении изменения в постановление Президиума АНБ от 5.12.90 г. № 111

Президиум Национальной академии наук Беларуси ПОСТАНОВЛЯЕТ:

На основании утвержденного Постановлением Совета Министров РБ от 16.05.97 № 499 Положения о присуждении ученых степеней и присвоении ученых званий, в котором определен перечень кандидатских экзаменов и зачетов, а также согласно п.12.3 протокола заседания Бюро Президиума НАН Беларуси от 24.04.98 г. № 13 считать утратившим силу второй абзац п.12 приложения к постановлению Президиума АН БССР от 5.12.90 г. № 111 "О мероприятиях Академии наук БССР по реализации Государственной программы развития белорусского языка и других национальных языков в Белорусской ССР", в части, касающейся введения обязательного зачета по белорусскому языку для аспирантов и соискателей.

Президент НАН Беларуси академик — А.П.Войтович

Главный ученый секретарь НАН Беларуси член-корреспондент — Ф.А.Лахвич

У адказ на ініцыяваныя пэўнымі коламі антыадраджэнскія павевы ўрад Рэспублікі Беларусь пайшоў на прыняцце шэрагу захадаў па адмене нарматыўных актаў, што былі скіраваны на павышэнне сацыяльнай ролі беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця. У лік такіх сфер, дзе вырашылі праводзіць дзяржаўную палітыку дыскрымінацыі беларускай мовы, трапіла і навука. А калі такога пажадаў сам урад краіны, што ж тады заставалася рабіць кіраўніцтву Нацыянальнай акадэміі навук? Супраціўляцца? Такое магло б быць толькі ў двух выпадках: калі б НАН не залежала ад Савета міністраў РБ ці калі б яна была ўкамплектавана ў дастатковай колькасці кіруючымі кадрамі, што дасканала валодаюць, любяць беларускую мову, карыстаюцца ёю ў службовым і асабістым жыцці, пішуць на ёй свае навуковыя працы. На вялікі жаль, у такіх са здаровай, недэфармаванай грамадзянскай свядомасцю людзях Акадэмія навук пасля праведзенага ў яе асяроддзі ў 30-я гады масавага татальнага вынішчэння нацыянальнай эліты заўсёды зведвала і працягвае зведваць востры дэфіцыт. І гэта лёгка зразумець. Вось ужо шэсць дзесяткаў гадоў, г.зн. на працягу больш як двух пакаленняў людзей, аніводная наша хвалёная вышэйшая навучальная ўстанова не рыхтуе беларускамоўную інтэлігенцыю, якая магла б праз аспірантуру ці якім-небудзь іншым шляхам папаўняць кадравы склад Акадэміі. Калі ў ім і з'яўляюцца беларускамоўныя вучоныя, дык гэта толькі дзякуючы самаўсходам, а не вышэйшай школе краіны. Таму наяўнасць у зацверджанай Саветам міністраў РБ пастанове ад 16 мая 1997 г. №499 пункта аб выключэнні беларускай мовы з практыкі падрыхтоўкі навуковых кадраў была ўспрынята кіраўніцтвам Нацыянальнай акадэміі навук як моцна пажаданае боскае пасланне. Як і трэба было чакаць, Бюро прэзідыума НАН РБ на сваім пасяджэнні ад 24 красавіка г.г. без усялякіх спрэчак пастанавіла ў адпаведнасці з такім рашэннем урада ў далейшым не ўключаць беларускую мову ў абавязковы пералік прадметаў кандыдацкага мінімуму. Ва ўсе інстытуты тэрмінова выслалі спецыяльныя лісты з патрабаваннем да кіраўнікоў паведаміць пра ўсё гэта кожнаму аспіранту. І трэба адзначыць, што ў правядзенні такога роду мерапрыемстваў ніякіх праблем і цяжкасцей не ўзнікла, бо займаліся імі пераважна асобы, якія і самі былі не ў ладах з беларускай мовай. Каб у каго-небудзь, крый Божа, не стварылася ўражання, што беларуская мова ўвогуле выключаецца з аспіранцкага жыцця, у вышэйзгаданай пастанове бюро прэзідыума НАН РБ было сказана, што гэтую мову аспіранты могуць вывучаць на добраахвотнай аснове. Міжволі паўстае пытанне: а якую ж з моў аспірантам не дазволена вывучаць на такой аснове — кітайскую, японскую, іўрыт?.. Аспірант — асоба вельмі занятая і да таго ж, як і большасць людзей, вельмі прагматычная. Ён будзе вывучаць толькі тыя прадметы, якія з'яўляюцца абавязковымі пры здачы кандыдацкага мінімуму. Таму па-ранейшаму шэрагі беларускамоўных навукоўцаў будуць папаўняцца не ў арганізаваным, планавым парадку, а толькі за кошт самасеек. Пераважная большасць гэтай для ўсіх народаў і ўсіх часоў элітарнай катэгорыі інтэлігенцыі будзе ў нас адарванай ад прыродных культурна-моўных традыцый, не здольнай прынесці якую-небудзь адчувальную карысць для беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Больш таго, могуць нават знаходзіцца ў апазіцыі да яго. Адарваныя ад беларускай мовы навукоўцы будуць носьбітамі, прычым вельмі актыўнымі, той мовы, на якой яны пішуць свае працы, арганізуюць усю прафесійную дзейнасць. Паколькі такой мовай у адпаведнасці з даўно і трывала ўсталяванай практыкай у акадэміі і яе аспірантуры з'яўляецца руская, значыцца, не толькі сённяшнія, але і новыя генерацыі вучоных краіны будуць носьбітамі рускай мовы, а праз яе і носьбітамі рускай культуры. Па гэтай прычыне ў іх будзе вельмі кволая ў плане беларускасці нацыянальна-дзяржаўная свядомасць, бо не можа чалавек актыўна выступаць за дзяржаўны суверэнітэт краіны, культурай і мовай якой ён не жыве. Ён, несумненна, аддасць прыярытэт той краіне, на чыіх духоўных асновах выхаваны і чые спавядае ў штодзённай практыцы.

Як вядома, такіх адарваных ад нацыянальных традыцый людзей і раней і цяпер вельмі цэняць дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, таму і робяць усё, што толькі ў іх сілах, каб беларуская нацыянальная культура і мова займалі другараднае становішча ў адукацыі і навуцы, элітарных сферах прафесійнай культуры і мастацтва, сродках масавай інфармацыі. Асабліва пільна сочаць улады за тым, каб у нас не фарміраваліся адданыя нацыянальным ідэалам беларускамоўныя навукоўцы, бо, відаць, добра разумеюць, калі нацыянальна-самасвядомая інтэлігенцыя ёсць лакаматыў нацыянальнага Адраджэння, дык падобнага гарту навукоўцы — матор у такім лакаматыве.

На вялікі жаль, у нас усе пласты інтэлігенцыі, у тым ліку большасць навукоўцаў і нават значная частка пісьменнікаў, не вызначаюцца трывалай нацыянальнай скіраванасцю. Вінаватыя ва ўсім гэтым тыя пачварныя ўмовы, у якіх даводзілася ўзгадоўвацца і працаваць такога роду людзям. Не фарміруем мы іх нацыянальна-самасвядомымі і зараз. Не тая ў нас сістэма вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Усё нацыянальнае ў ёй бязлітасна спакладаецца (кастрыруецца). Дзяржаўным чыноўнікам не дае спакойна спаць нават наяўнасць у дзесяцімільённай краіне (!) аднаго адзінага Беларускага гуманітарнага ліцэя.

У кожным грамадстве, якое не збіраецца стаць ахвярай самай агіднай ў свеце з'явы — асіміляцыі, звычайна ўсялякія ганенні на нацыянальную культуру і мову выклікаюць у людзей адваротную рэакцыю. Не змагаюцца за нацыянальнае выжыванне толькі мерцвякі. Рана ці позна навязаны самімі дзяржаўнымі структурамі беларускаму нацыянальнаму Адраджэнню "тайм-аут" скончыцца. Ля стырна не ўяўнай, а сапраўды беларускай суверэннай дзяржавы стануць не засімляваныя, а апантаныя святым нацыянальным ідэалам волаты, якія з зайздроснай напорыстасцю павядуць самаахвярнае змаганне за выратаванне свайго народа ад канчатковай культурна-моўнай дэградацыі, былыя і сённяшнія віноўнікі якой зоймуць адпаведнае месца ў гісторыі. Упэўнены, што у сваёй абсалютнай большасці новыя пакаленні беларусаў, у тым ліку і навукоўцаў, не захочуць быць гноем для павелічэння дэнацыяналізаванай масы ўласнага ці колькаснага росту суседніх народаў. Аўра беларускасці павінна запанаваць у нашым краі. Дзеля яе пашырэння і росквіту не пашкадуюць сіл і таленту тыя генерацыі беларусаў, творчая, стваральная дзейнасць якіх прыпадзе на новае стагоддзе і тысячагоддзе. Знойдзецца — і вельмі хутка — дастаткова разумных і з высокай нацыянальнай самасвядомасцю маладых навукоўцаў, якія ў адказ на адміністрацыйнае вывядзенне з навуковай дзейнасці беларускай мовы будуць хінуцца да яе і не дапусцяць, каб іх роднае слова назаўжды пакінула гэтую прэстыжную сферу духоўнага жыцця.

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

Позиция

# Зачем сворачивать предпринимательство? Чтобы пополнять ряды безработных...

**Заявление руководителей неправительственных организаций г.Пинска**

Мы, руководители Пинских неправительственных организаций, выражаем свою обеспокоенность ситуацией, которая сложилась вокруг предпринимателей.

Власть проводит целенаправленную политику по ликвидации предпринимательства в стране. Людей, которые не просят у государства ничего для своего существования, а кроме этого содержат на свои налоги значительную часть бюджетников, фактически лишают возможности зарабатывать на жизнь. Лишенные здравого смысла декреты президента, постановления правительства заставляют людей сворачивать предпринимательскую деятельность, что автоматически создает неразрешимые проблемы. Значительно вырастет безработица, а это дополнительные затраты на выплату пособий, а непоступление денег в доходную часть бюджета вызовет невыплаты даже мизерных пособий пенсионерам и бюджетникам. Все это неминуемо создаст социальную напряженность в обществе.

Мы не можем молчать в такой ситуации и требуем принять неотложные меры по исправлению создавшегося положения: ввести понятное и разумное налогообложение, упорядочить таможенные операции, сделать доступными покупку и использование в коммерческих целях валюты, упростить сертификацию товаров и пр.

**Пинская организация Белорусской социал-демократической партии "Народная Громада" (В.ЯРОШУК);**
**Пінская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай моладзі "Маладая Грамада" (Ул.ЗЯНЬКО);**
**Ассоциация женщин Полесья "Женская воля";**
**Пінскае аддзяленне БХК (А.ДЗІКАВІЦКІ);**
**Пінская грамадска-культурная арганізацыя "Плошча" (А.АСМАЛОЎСКАЯ);**
**Пинская молодежная культурно-просветительская организация "Мроя" (С.МАЦУКЕВИЧ);**
**Пинское отделение Молодого Фронта (И.МИТРОХИН);**
**Пинская городская организация БНФ "Адраджэнне" (Л.В.АЛЕХИНА);**
**Пінская філія Фонда братоў Луцкевічаў (А.СТАНКЕВІЧ).**

Жыццё як яно ёсць

# Ніхто не жадае працаваць. На гаспадара

Сярод разнастайных праблем сваёй гаспадаркі апошнім часам ніяк не ўдаецца вопытнаму фермеру з Аршанскага раёна Аляксандру Шалатоніну вырашыць адну — кадравую. Ягоная сялянская гаспадарка ў ліку яшчэ пяці па Беларусі нядаўна аднесена да ліку ўзорных, дзе належыць паказваць астатнім вопыт працы на зямлі. Ужо 10 гадоў гэты працаўнік спецыялізуецца на жывёлагадоўлі, на сваім 51 гектары зямлі самастойна забяспечвае статак кармамі. А пагалоё ў Шалатоніна вялікае: акрамя 80 галоў бычкоў вырошчвае 130 свіней, 30 асноўных свінаматак, мае гурт кароў з 28 галоў. Вынікі ягонай дзейнасці летась гавораць самі за сябе, калі гаспадарка рэалізавала 60 тон малака, 35 тон мяса, а яшчэ прадала дзяржаву 110 тон зерня і 30 тон бульбы.

Зразумела, пры такіх аб'ёмах без дапамогі наёмных работнікаў ніяк не абысціся. У ідэале такіх жа самаадданых, шчырых у працы, як сам гаспадар. І вось тут узніклі пэўныя пытанні. Сённяшні вясковец, па словах Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, не рвецца ні ў фермеры, ні ў наёмныя работнікі. Жывёлаводы ў суседніх калектыўных гаспадарках зарабляюць у межах 500 тысяч рублёў у месяц, а Шалатонін гарантуе ім зарплату ад 3,5 мільёна і вышэй. Аднак жа не ідуць, баяцца адказнасці. Гаспадар пры гэтым не даруе неахайнасці, не пацерпіць п'янства, малейшага крадзяжу на працоўным месцы. Гэта толькі ў калгасе трывала ўвайшло ў жыццё.

Кожную восень прыходзіцца фермеру дадаткова наймаць сабе на працу вартаўнікоў. Інакш не зберагчы вырашчаны ўраджай на землях паблізу горада, дзе нямала развялося жадаючых на дармавую нажыву. Іншых прыходзілася неўзабаве звальняць, бо пасля начнога дзяжурства самі заняліся днём крадзяжамі, дэталёва вывучыўшы абстаноўку на палях гаспадара...

Вельмі абураюцца прадстаўнікі ўлады, калі вяскоўцаў іншым разам называюць "ачмураным, затурканым і забітым народам". Так ганьбіць усіх і, з другога боку, ідэалізаваць сённяшнюю вёску, па-мойму, аднолькава няправільна. А вось задумацца, чаму сельскі працаўнік не жадае актыўна працаваць на зямлі, аднолькава важна ўсім нам.

**Уладзімір ШЫК.**

## Літоўскі прэм'ер не адобрыў учынак сына

Нядаўна ноччу дарожная паліцыя затрымала студэнта Акадэміі права, сына прэм'ер-міністра Літвы Томаса Вагноруса, які кіраваў аўтамабілем у нецвярозым стане. Сума штрафу склала 2000 літаў (500 долараў). Даведаўшыся аб гэтым, літоўскі прэм'ер Гедымінас Вагнорус сказаў, што так, маўляў, яму і трэба. Сыну будзе добры ўрок на будучыню.

Вільнюс.
**Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

## Мінскія электроншчыкі дапамогуць іранцам пабудаваць завод паўправаднікоў

Распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі будаўніцтва завода паўправаднікоў у хуткім часе пачне НВА "Інтэграл". Гэты заказ мінчане атрымалі ад іранскай фірмы "Эмад Мікраэлектронікс".

Як паведаміў карэспандэнту БелТА намеснік дырэктара знешнегандлёвай фірмы "Інтэгралзамежгандаль" Аляксандр Угляніца, непасрэдна будаўнічымі работамі зоймецца беларускае прадпрыемства "Белграмадзянбуд". Узвядзенне і ўвод у дзеянне аб'екта будзе каштаваць заказчыкам з далёкага замежжа сотні мільёнаў долараў.

На думку спецыялістаў Міністэрства прамысловасці, выбар НВА "Інтэграл" у якасці партнёра па будаўніцтве завода паўправаднікоў не выпадковы. Гэта прадпрыемства — адзін з флагманаў электроннай галіны ў краінах СНД.

**Ігар ХОМІЧ, БелТА.**

## Польскія візы будуць больш таннымі

Кошт уязных віз у Польшчу для грамадзян Беларусі і Расіі будзе зніжаны з 1 жніўня бягучага года. Аб гэтым 14 ліпеня ў афіцыйным паведамленні заявіла Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча.

Цяпер шматразовая віза тэрмінам на паўгода будзе каштаваць 14 долараў, а за аднаразовыя візы грамадзяне Беларусі і Расіі будуць плаціць па 5 долараў.

Прынятыя расцэнкі, гаворыцца ў дакуменце польскага знешнепалітычнага ведамства, аблегчаць грамадзянам дзвюх суседніх краін паездкі ў Польшчу з гандлёва-эканамічнымі мэтамі.

Крымінал

### Залётныя вымагальнікі затрыманы

Некалькі непрыемных мінут прыйшлося перажыць грамадзяніну Германіі, вадзіцелю адной з камерцыйных фірм. У час адпачынку недалёка ад вёскі Барысава Кобрынскага раёна на яго напалі трое невядомых і, пагражаючы фізічнай распраўай, запатрабавалі валюту. Аднак, як паведамілі БелТА ў прэс-службе МУС, вымагальнікі былі затрыманы супрацоўнікамі мясцовай міліцыі. Высветлілася, што гэта жыхары Варонежа. Узбуджана крымінальная справа.

### Страшнае злачынства ўтаіць не ўдалося

Следча-аператыўная група Расонскага РАУС затрымала рабочага мясцовага калгаса "Радзіма", які два гады таму быў умоўна асуджаны і знаходзіўся пад наглядам.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў прэс-службе МУС, па прычыне рэўнасці ён збіў да смерці сваю цяжарную сужыцельку. Каб утаіць сляды злачынства, забойца закапаў труп у падвале свайго дома. Цяпер злачынцу прыйдзецца адказваць за ўчыненае па ўсёй строгасці закона.

### Аргумент у амурных "разборках" — паляўнічая стрэльба

Глыбокай ноччу разыгралася трагедыя ў гарадскім пасёлку Урэчча Любанскага раёна. Непрацуючы мясцовы жыхар, знаходзячыся пад уздзеяннем спіртнога, па прычыне рэўнасці вырашыў пакараць аднаго з мясцовых жыхароў.

Як паведамілі БелТА ў прэс-службе МУС, раўнівец прыйшоў у яго дом і выстралам з паляўнічай стрэльбы ІЖ-12 забіў гаспадара. Але гэтым ён не абмежаваўся і, вярнуўшыся дамоў, з той жа зброі параніў у плячо бацьку сваёй сужыцелькі, якога даставілі ў бальніцу. Вядзецца следства.

### Пагранічнікі паклапаціліся аб здароўі іншаземцаў

Беларускія пагранічнікі ўнеслі свой уклад у барацьбу з курэннем. Як паведамілі БелТА ў Дзяржкамітэце пагранвойскаў, у пункце пропуску "Брузгі" нядаўна быў затрыманы грамадзянін Германіі, які накіроўваўся ў Польшчу. Пагранічны нарад канфіскаваў у яго сто блокаў цыгарэт "LM". Кантрабандны тавар на агульную суму 25 мільёнаў рублёў перададзены мытным органам.

**БелТА.**

Нельзя молчать!

# "Бить жидов" хотят и у нас. Раньше в Калинковичах такого не было...

"Народная воля" в номере от 16 июня 1998 г. опубликовала статью Валерия Алексеева под ошеломляющим заголовком: "В центре белорусской столицы "под охраной государства" находится антисемитский призыв". Оказывается, на видном месте, в Минске, красуется призыв — "Бей жидов!". Я разделяю оценки и выводы автора статьи. Так как факт этот — беспрецедентен. Не могу не сказать, что если антисемитский призыв нашел место в столице государства, то в провинции (у нас в Калинковичах) имеют место самые что ни на есть прямые факты антисемитизма, вплоть до угрозы убийства "жидов". Вот они, примеры оголтелого антисемитизма.

В недалеком прошлом в мой почтовый ящик была подброшена записка: "Жиды проклятые, уезжайте в Израиль, а то — расстреляем вас". Милиция, как и следовало ожидать, автора записки не нашла.

Несколько месяцев назад соседка по подъезду (молодая женщина) со злостью и ненавистью кричала в упор моей жене (75 лет, ветеран Отечественной войны): "Тебе... не жить. Я поставлю крест тебе и твоему... У меня есть, кто это сделает".

Неоднократно на стене дома, у окон, была надпись — "Жиды". Не думайте, что милиция привлекла к ответственности того, кто угрожал убийством. Опять восторжествовал антисемитизм.

В это же время готовилась к отъезду в Израиль семья из соседнего подъезда. Матери двоих детей эта же молодая особа высказала угрозу: "Жидовская морда! Ты до Израиля не доедешь. Я убью тебя".

Совсем недавно эта распоясавшаяся личность, поощренная безнаказанностью и покровительством милиции, выплеснула в лицо моей жены кощунственные слова: "Жидовская морда! (Кстати, жена — русская, из Липецкой области) Чтоб ты сдохла!" Помимо этого (прямых угроз и оскорблений), эта женщина в течение ряда лет, систематически изо дня в день, целенаправленно и умышленно совершает грубые правонарушения, направленные на то, чтобы спровоцировать конфликты. Не дает спокойно жить. Несмотря на десятки обращений, милиция и многие структуры власти **до сих пор не оградили нас с женой от постоянных издевательств антисемита**.

А ст. 59 Конституции Республики Беларусь для многих государственных структур не является законом. Она просто игнорируется ими.

Выходит, создаются условия и предпосылки для того, чтобы антисемитизм (в своих разных проявлениях) жил, процветал и действовал во вред человеку, обществу и государству. Если это не так, то почему многократные обращения к президенту, министру внутренних дел, председателю горисполкома, начальнику РОВД, Генеральному прокурору, в Комитет госконтроля, в облисполком не были глубоко изучены и по ним до сих пор (!) не приняты исчерпывающие меры?

А ведь все эти структуры, органы и должностные лица обязаны нести ответственность за действия, нарушающие права и свободы личности (опять же, как явствует из ст. 59 Конституции Республики Беларусь).

Я не беру на себя смелость утверждать, что в нашей стране имеет место государственный антисемитизм, но полностью согласен с одним из сатириков, который сказал, что **"существует дикая отвратительная государственная терпимость к антисемитизму"**.

Все вышеизложенное неоспоримо это подтверждает. В связи с этим возникает ряд вопросов:

— Почему об этом молчат ТВ, радио, пресса?

— Почему государственные структуры беспринципны в оценке фактов антисемитизма?

— Почему не запрещена ненависть к другому человеку, не наказывается тот, кто эту ненависть провозглашает?

— Почему госструктуры не выполняют требования ст. 50 Конституции Республики Беларусь, которая гласит: "...оскорбление национального достоинства преследуется согласно закону"?

Разве у нас в стране отсутствует антисемитизм?

Хотелось бы узнать, как на это отреагирует президент Республики Беларусь, как гарант прав и свобод человека и Конституции Республики Беларусь.

Ведь нужно что-то делать, как-то действовать. Положение дел нужно менять. За один день этого не сделать. И если в Отечественную войну белорусы прятали еврейских детей, укрывали еврейские семьи от расстрелов, то сейчас, к сожалению, антисемитизм — явление обыденное. Слово "жид" можно услышать часто, также прочитать его на заборах и стенах домов. Без целенаправленной национальной политики, без принципиальных оценок и действий госструктур антиеврейские настроения не угаснут.

Не будет никогда сильным ни народ, ни государство, если в стране имеют место ненависть, национальная рознь, недоверие, шовинизм и т.д.

В Калинковичах мы живем 36 лет. Не собираюсь обобщать и настаивать. Но такого проявления антисемитизма, как это происходит сегодня, раньше не было. В свой адрес слово "жид" услышали лишь **первый раз** несколько лет назад. Хвороба распространяется, а это очень тревожные симптомы.

В связи с этим считаю нужным высказать свое мнение:

— не хватает мудрости у руководства страны трезво оценить обстановку, выработать систему мер и неуклонно ее выполнять;

— нет проницательности у наших чиновников, нет у них такого качества, как непримиримость к тем, кто расшатывает стабильность в отношениях между людьми разной национальности.

О чем еще можно говорить, если в центре столицы Беларуси стало возможным существование призыва "Бей жидов!"? Ведь адекватная реакция властей обязана была последовать незамедлительно.

Я еще (может, и наивно) питаю надежду, что вышеизложенное дойдет до президента и заставит его определиться по затронутым вопросам. Как реакция президента на происходящее должны последовать конкретные меры в Калинковичах по отношению и к злостным правонарушителям, и к тем, кто их защищает.

Только в этом случае можно будет сказать, что власть правильно реагирует на обоснованную и конструктивную критику своих подданных.

Считаю своим долгом высказать благодарность редакции "Народной воли" за то, что газета опубликовала мое письмо, имеющее важное значение для настоящего и будущего страны.

**Ефим ВОЛОДАРСКИЙ, ветеран Великой Отечественной войны, ветеран Воздушных Сил, ветеран труда, трудовой стаж — 50 лет.**

Открытое письмо

# Судьи! Судите по закону...

Уважаемые судьи Республики Беларусь!

Вы олицетворяете в стране судебную власть. Конституция Республики Беларусь провозглашает независимость судебной власти и подчинение судей только закону, обязывает Вас вершить правосудие на основе состязательности и равенства сторон в процессе, вести разбирательство дел открыто, быть беспристрастными, обеспечивать достоинство личности.

К сожалению, в действительности так не происходит. Во многих случаях, особенно на процессах политических деятелей, Вы становитесь пристрастными и выносите решения в угоду власть имущим. Вот несколько тому примеров.

Минский областной суд в феврале 1998 года осудил за хулиганство Алексея Шидловского и Вадима Лобковича. Но в ходе судебного исследования стало очевидно, что действия обвиняемых не подпадают под критерии хулиганства. Их поступки не являются нарушением общественного порядка и выражением явного неуважения к обществу, как то трактует закон. Молодые белорусы оставили на стенах политические лозунги, а не хулиганские надписи. Они реализовывали право на свободу выражения своих мнений и убеждений (статья 33 Конституции).

Да, при этом своими действиями они причинили ущерб некоторым организациям, но полностью возместили его. И административное правонарушение, на которое закрывают глаза в ходе избирательной кампании, судья Владимир Лавров рассматривал как уголовное преступление и приговорил молодых людей к лишению свободы.

Московский районный суд города Минска в марте 1998 года отказал депутату законодательного органа Андрею Климову в освобождении из-под стражи, куда тот был водворен якобы за хищение. Отказал, несмотря на то, что при аресте были нарушены конституционные права парламентария.

Судья Александр Валькович проигнорировал положения статьи 115 Конституции о состязательности и равенстве сторон. Рассматривая дело, он даже не соизволил пригласить обвиняемого, а адвоката просто-напросто выставил за дверь. До сих пор, уже по прошествии пяти месяцев со дня ареста, депутату не предъявлены доказательства преступления, в совершении которого его обвиняют.

Ленинский районный суд города Минска в мае 1998 года за контрабанду и распространение наркотиков осудил гражданина Нигерии Кельвина Чима Узома. Безусловно, наркодельцов необходимо строго карать. Однако в ходе судебного исследования не выявлено убедительных доказательств совершения нигерийцем этих преступлений.

Доводы для подозрения в причастности иностранца к наркобизнесу действительно имеются, а вот доказательств преступных деяний нет. Тем не менее судья Валентина Кривая только на основании предположений приговорила обвиняемого к лишению свободы.

Центральный районный суд города Минска в июне 1998 года осудил меня — депутата Верховного Совета 13-го созыва — за мелкое хулиганство. Да, факт нарушения имел место. И наложенное взыскание по своей строгости закону не противоречит. Но мелкого хулиганства, определяемого законом как нецензурная брань и оскорбительное приставание к прохожим, не было. У здания МВД осуществлена политическая акция, при проведении которой общественный порядок не нарушался!

Наложение судьей А.Борисенком взыскания не по существу содеянного можно объяснить судебной ошибкой. Но недопустимо попрание практически всех процессуальных норм служителем Фемиды, который:

— противодействовал оказанию правовой помощи, не допустив на процесс защитника и заявленных свидетелей, чем грубо нарушил статью 62 Конституции, гарантирующую каждому право пользоваться в любой момент помощью адвокатов и других **своих** представителей в суде;

— вызвал против моей воли дежурного адвоката;

— не предоставил возможности защитнику ознакомиться с делом и выяснить у подзащитного обстоятельства правонарушения;

— не дал в ходе процесса адвокату слова;

— отказал мне в ознакомлении с делом и не выслушал мои показания по существу рассматриваемого события;

— лишил возможности пользоваться необходимыми мне по ходу процесса документами;

— не допросил свидетелей "обвинения" и не исследовал материалы дела;

— проводил процесс без секретаря судебного заседания и не вел протокол;

— не занес в дело заявленные мною ходатайства и принятые по ним определения;

— отклонил ходатайство о переносе начала судебного процесса на два часа, чтобы я мог пообедать и привести себя в порядок, поскольку двое суток милиция не давала мне есть и спать.

А.Борисенок судил голодного и невыспавшегося человека, внешний вид которого милиция три дня пыталась превратить в обличье люмпена, заставляя спать в одежде на грязном полу, не давая возможности умыться и переодеться! А.Борисенок судил практически слепого, поскольку без очков, специально изъятых милицией перед заседанием суда, я не в состоянии читать и делать необходимые по ходу процесса записи.

Уважаемые представители судебной власти в Республике Беларусь!

Конституция предусматривает ответственность государственных органов и должностных лиц, к которым относятся суды и судьи, за действия, нарушающие права и свободы личности. Приведенные факты, взятые из числа сотен подобных, свидетельствуют, что на Беларуси служители Фемиды зачастую осуществляют не правосудие, а проводят расправу над противниками правящего режима, осуждают людей в угоду исполнительной власти. Это — правовой беспредел, главные виновники в насаждении которого на Беларуси — Вы, судьи!

Вы проводите закрытые судебные процессы против участников массовых акций, депутатов парламента, лидеров политических партий, попирая статью 114 Конституции об открытом разбирательстве дел в судах!

Вы нарушаете право граждан на получение достоверной и своевременной информации, гарантированное статьей 34 Конституции !

Вы потворствуете исполнительной власти, ограничивающей права и свободы личности, гарантированные статьями 23, 25, 26, 33 Конституции!

Вы содействуете правящему режиму в посягательстве на свободу собраний, шествий, митингов, уличных шествий и пикетирования, гарантированную гражданам статьей 35 Конституции!

Вы руководствуетесь подзаконными актами — декретами главы государства, противоречащими Конституции Республики Беларусь!

Народ пока молчит. Но если его терпение кончится, то последствия, уважаемые судьи, будут и на Вашей совести!

**Валерий ЩУКИН, многократно судимый белорусским судом депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

Метаморфозы

# Почему столь трудна и сложна тропа ходока в столицу?

**Василий Васильченко, работая главным агрономом совхоза, запросто один на один беседовал с П.М.Машеровым. Не мешая откровенному разговору, чуть в стороне находился тогдашний руководитель района С.С.Линг. Оказавшись безработным, он три года безуспешно пытается попасть на прием или хотя бы лично передать письма руководителям государства, которые иным путем не доходят...**

Если быть конкретным, то таких встреч у Василия Васильевича Васильченко с П.М.Машеровым было несколько. Крестьянский сын, Петр Миронович, став первым руководителем республики, всегда интересовался судьбой урожая, объезжал и облетал поля, беседовал с людьми, вызывая их на откровенный разговор. Так что это было в стиле работы белорусского лидера.

А та встреча с П.М.Машеровым особенно запомнилась В.В.Васильченко. В тот год урожай зерновых обещал быть особенно высоким. И проблема состояла не столько в уборке, сколько в переработке (сушке) и сохранении зерна. Вот и приехал Петр Миронович в соседний со столицей Смолевичский район, посетил многие хозяйства, в том числе и совхоз имени Тимирязева, где за земледельческий сектор отвечал В.В.Васильченко. О предложениях, взглядах не только на уборку, а и откровениях о том, что мешает работать на полную мощь, подходах к разрешению житейских проблем и решил послушать главного агронома Петр Миронович, поговорив с глазу на глаз. И эта задушевная беседа, заинтересованный сердечный разговор с авторитетным руководителем оставили у Василия Васильевича добрый след в памяти.

Александр Григорьевич Лукашенко тоже не раз заявлял, что стремится как глава государства унаследовать стиль работы Петра Мироновича.

Столкнувшись с несправедливостью на новом месте работы — в СМУ-5 г.Климовичи — и злоупотреблениями "зарвавшегося и заворовавшегося" руководителя Шапкина, он, Васильченко, не боясь последствий, вступил в неравный бой. И его, как и следовало ожидать, сократили. Ни районные, ни областные инстанции мер не принимали.

"Живу и верю в справедливость, — напишет он в очередном письме президенту А.Г.Лукашенко. — Вот уже три года я пишу Вам об этом, прошел всю Вашу, уважаемый Президент, вертикаль, давал даже телеграмму на Ваше имя. Только формальные ответы всегда получал из... Климовичей".

Как считает климовичский заявитель, точку в этой затянувшейся переписке мог бы поставить только президент.

"...Но для меня Президент, — напишет гражданин Васильченко самому Александру Григорьевичу Лукашенко, — недоступен. Обидно. А ведь Президент — наш избранник, я с женой поддержал его, когда он этого просил. И на выборах, и на референдуме. В ответ же мы, избиратели, еще конкретнее — я и моя жена — поддержки со стороны главы государства как гаранта Конституции не имеем. В отместку за мои письма и обращения в инстанции вдобавок сократили и жену, у которой до этого была одна запись в трудовой книжке на протяжении 28 лет".

Видимо, для Александра Григорьевича Лукашенко и представился последний шанс вникнуть в затянувшуюся историю с "сокращением" принципиального работника Васильченко, а действительно проворовавшимся руководителям СМУ-5 (у редакции имеются подтверждающие этот вывод документы) пора дать по шапке.

А если на вопиющие факты, подобные разбазариванию стройматериалов климовичскими нуворишами, попытаться закрыть глаза, то можно растерять весь электорат перед очередными выборами. И первой среди утраченных голосов избирателей может оказаться "непроголосовавшая" за президента семья Васильченко, которая пока, несмотря ни на что, продолжает верить в торжество справедливости. Как и в то, что еще эта власть и нынешний, а не следующий, президент разберутся.

**Виктор СВИРКО.**

